ПРАВА АБАРОНЧЫ ВЕСНІК

СТУДЗЕНЬ, **2012**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**У ААН накіравана першая скарга з Беларусі на прымусовую дактыласкапію**

СТАР. 3

**Генпракурора просяць даць дзеянням Лукашэнкі прававую ацэнку**

СТАР. 4

# Бяляцкі рыхтуецца да разгляду касацыйнай скаргі





*У лістах з-за кратаў Алесь Бяляцкі піша, што рыхтуецца да касацыйнага разгляду крымінальнай справы і падбадзёрвае сваіх калегаў па юрыдычнай дзейнасці.*

**Па словах паплечніцы праваабаронца Таццяны Равякі, кожны ліст з Жодзінскага следчага ізалятара, дзе ўтрымліваюць Бяляцкага, прасякнуты словамі ўдзячнасці і бадзёрасці, нягледзячы на складаныя ўмовы ўтрымання.**

- Піша ён пра тое, як ён сябе адчувае, хутчэй пра свой псіхалагічны стан. Ва ўсіх лістах у яго гучаць словы падтрымкі з няволі тым, хто знаходзіцца на волі, хаця гэта дзіўна гучыць. Жадае аптымізму. Ва ўсіх лістах адчуваецца перажыванне за «Вясну» і за ўсіх нас. Алесь нават мне напісаў у адным з лістоў: «Са мною ўсё ясна, вам, тым, хто на волі цяжэй».

Тым часам ужо на гэтым тыдні паплечнікі Алеся Бяляцкага маюць намер сплаціць дзяржаве вызначаны судом урон, сабраны праз добраахвотныя ахвяраванні на імя жонкі праваабаронцы.

Касацыйны разгляд справы Алеся Бяляцкага прызначаны на 24 студзеня. У гэты дзень абвінавачанне супраць старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" і сусветнавядомага праваабаронцы ў нясплаце падаткаў паўторна разгледзіць цяпер ужо мінская гарадская судовая калегія.

24 лістапада мінулага года Першамайскі суд Мінска прызнаў Бяляцкага вінаватым у нясплаце падаткаў з грошай, што ішлі на праваабарончую дзейнасць і асудзіў на 4,5 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Большасць міжнародных праваабарончых арганізацый назвалі прысуд палітычным.

Радыё Рацыя, Мінск.

Фота svaboda.org

# Грошы для Алеся Бяляцкага практычна сабраныя

*Дакладных дадзеных аб памеры сабранай сумы пакуль няма, аднак ужо можна гаварыць, што сабрана 720-730 мільёнаў рублёў. Гэтую суму ўдалося сабраць за 20 дзён  пачатак збору сродкаў быў пакладзены 15 снежня. Нагадаем, што суд пастанавіў кампенсаваць 757 мільёнаў рублёў.*

***"Як толькі будзе прызначаны касацыйны разгляд справы і стане вядомы рахунак, на які трэба пералічыць грошы, мы іх пералічым. Зараз мы кампанію не спыняем, бо сума пакуль не сабраная  яна толькі блізкая да завяршэння. Мы спадзяемся, што беларуская судовая сістэма ўлічыць гэта пры змякчэнні прысуду для Алеся Бяляцкага. Безумоўна, гэта не прызнанне віны Бяляцкага ні ім, ні намі",*** *- распавёў Еўрарадыё Уладзімір Лабковіч.*

*У "Вясне" спадзяюцца, што кампенсацыя неабходнай сумы паўплывае на далейшы лёс кіраўніка цэнтра.*

*Аднак дакладна не бяруцца сказаць, якім менавіта чынам. Гэта можа быць адмова ад канфіскацыі маёмасці праваабаронцы, а таксама перавод яго на "хімію".*

Алесь Пілецкі

# Шэсць фактаў па справе Алеся Бяляцкага,
## пра якія не распавядае БТ і не пішуць у “Советской Белоруссии”

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія распачалі шалёную кампанію дыфамацыі супраць вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, вельмі любяць распавядаць пра ягоную маёмасць. У сувязі з гэтым мы, калегі Алеся Бяляцкага, вырашылі агучыць рэальныя факты, якія замоўчваюцца ці скажаюцца штатнымі прапагандыстамі ў мэтах дыскрэдытацыі зняволенага праваабаронцы.

Адразу адзначым, што ўсе выкладзеныя факты падцвярджаюцца афіцыйнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў матэрыялах крымінальнай справы А. Бяляцкага і былі агучаны падчас судовага паседжання.

**Факт першы:** Двухпакаёвая кватэра, у якой пражывае сям'я Алеся Бяляцкага, была набытая ў 1999 годзе ў выніку продажу двух аднапакаёвых кватэр, якія належалі сям'і Бяляцкіх (знаходзіліся на вул. Варанянскага ў г. Мінску). Варта адзначыць, што працуючы дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (з 1988 па 1998 год), Алесь Бяляцкі атрымаў адну з гэтых аднапакаёвых кватэр па ордэру Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, другая была набыта ў пачатку 90-х гадоў -- у гэтыя часы Алесь актыўна займаўся перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю.

**Факт другі:** Кватэра на праспекце Незалежнасці 78А-48, у якой месціцца офіс Праваабарончага цэнтру “Вясна”, была набытая ў 2000 годзе. Па ўзгодненым рашэнні Рады Праваабарончага цэнтру “Вясна” кватэра была афармленая на прыватную асобу, у ёй быў афіцыйна зарэгістраваны Алесь Бяляцкі. Дзякуючы таму, што офіс з'яўляўся прыватнай уласнасцю, Праваабарончы цэнтр “Вясна” змог прапрацаваць у ім 11 апошніх гадоў. У гэтай кватэры рэгулярна праводзяцца прэс-канферэнцыі і прэзентацыі, яна добра вядомая практычна ўсім грамадка-палітычным актывістам краіны і людзям, якія сутыкаюцца з парушэннем іх правоў, яе наведваюць замежныя дыпламаты.

Ведаюць пра існаванне офіса і беларускія спецслужбы. У афіцыйных санкцыях КДБ на правядзеннеператрусаў у дадзенай кватэры ў снежні 2010 і студзені 2011 гг. было ўказана, што следчыя мерапрыемствы адбываліся ў офісе “незарэгістраванага ПЦ “Вясна”.

У дзяржаўных СМІ адмыслова называюць сучасны рынкавы кошт нерухомасці, які значна вырас за апошнія 13 гадоў. Разам з тым, на момант набыцця кошт гэтай кватэры складаў каля 23 000 даляраў ЗША.

**Факт трэці:** “Шыкоўны катэдж” Бяляцкіх у мястэчку Ракаў уяўляе сабой ні што іншае, як адрамантаваную старую драўляную хату (таму яе неахвотна паказваюць па БТ). Лецішча было набытае сям'ёй у 2005 г., прычым зямельны ўчастак, на якім стаіць дом, не быў прадметам куплі-продажу. Участак належаў папярэднім гаспадарам на праве пажыццёвага валодання (не быў прыватнай уласнасцю) і быў пазней прыватызаваны Бяляцкім самастойна. Як вядома, прыватызацыя зямельных участкаў ў Беларусі каштуе зусім невялікія грошы: у дадзеным выпадку яна абышлася Бяляцкім у суму памерам у 161 330 беларускіх рублёў.

Таксама звяртаем увагу на тое, што перыяд атрымання сродкаў А.Бяляцкім, які разглядаўся ў судзе па крымінальнай справе праваабаронцы -- 2007 -2011 гг., а набыццё маёмасці адбывалася ў 1999, 2000 і 2005 гадах адпаведна.

**Факт чацвёрты:** “Шыкоўны аўтамабіль”, які набыў А.Бяляцкі ў 2010 годзе -- гэта “Сітраен С-5” 2003 г. выпуску, які быў увезены ў Беларусь з Літвы ў пашкоджаным стане. Паводле афіцыйнай дамовы куплі-продажу, ён каштаваў 2 300 Еўра, а разам з мытнымі плацяжамі -- 3000 Еўра.

Алесь Бяляцкі не мае вадзіцельскіх правоў, машынай карыстаўся ягоны сын Адам адзін з актыўных удзельнікаў акцый “стоп-бензін” у Мінску. У ліпені 2011 года ён адзін з першых спыніў сваю машыну на праспекце, чым ініцыяваў перакрыццё руху на некалькі гадзін. За ўдзел у жнівеньскай акцыі Адам быў арыштаваны, а машына была пагружана на эвакуатар і вывезеная на штрафную стаянку, дзе знаходзіцца і зараз.

**Факт пяты:** За перыяд з 1994 г. па 2008 г. Інспекцыяй па падатках і зборах Першамайскага р-ну г. Мінска праводзілася праверка прыбыткаў Алеся Бяляцкага і членаў ягонай сям'і. Перавышэнне прыбыткаў А. Бяляцкага над ягонымі выдаткамі па выніках дадзенай праверкі склала сума, эквівалентная 30 далярам ЗША. Перавышэння выдаткаў над




прыбыткамі ў іншых членаў сям'і не было ўстаноўлена. Варта нагадаць, што менавіта на гэты перыяд часу і прыпадаюць здзелкі з купляй маёмасці.

**Факт шосты:** Грашовыя сродкі НЕ АПЫНУЛІСЯ на рахунках, адкрытых А. Бяляцкім у Літве і Польшчы, а БЫЛІ ПЕРАЛІЧАНЫЯ туды шэрагам фондаў згодна з двухбаковымі дамоўленасцямі паміж дадзеным фондамі і Праваабарончым цэнтрам “Вясна”. Атрыманыя сродкі расходваліся арганізацыяй на заяўленыя мэты: прававабарончую дзейнасць, у тым ліку -- аказанне дапамогі ахвярам парушэння правоў чалавека. Уся справаздачнасць па расходванні атрыманых сродкаў была прадстаўлена Праваабрончым цэнтрам “Вясна” фондам, якія не выказалі ніводнай прэтэнзіі да іх выкарыстання. Такім чынам, грашовыя сродкі з рахункаў, адкрытых на імя А. Бяляцкага, не з'яўляюцца ягоным асабістым прыбаткам і, адпаведна, не падлягаюць падаткаабкладанню.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” заўсёды адкрыты да супрацоўніцтва з усімі СМІ і гатовы прадаставіць любую дакладную і праўдзівую інфармацыю па справе А. Бяляцкага, калі, вядома, гэтыя СМІ зацікаўленыя ў яе атрыманні.

spring96.org

# “Вясна” патрабуе неадкладнага вызвалення Сяргея Каваленкі

**19 снежня 2011 г. у г. Віцебску ў сувязі з узбуджэннем крымінальнай справы** паводле арт. 415 КК Рэспублікі Беларусь (ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі) быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА актывіст партыі КХП-БНФ Сяргей Каваленка. На дадзены момант ён утрымліваецца ў адзіночнай камеры СІЗА г. Віцебска і 23-ці дзень трымае галадоўку пратэста. Яго жыццю і здароўю пагражае сур'ёзная небяспека.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычнікага раёна г. Віцебска асудзіў Сяргея Каваленку да трох гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Крымінальны пераслед актывіста пачаўся пасля таго, як 7 студзеня 2010г. ён на вачах у соцень мінакоў вывесіў на 40-метровай вышыні бел-чырвона-белы сцяг, здолеўшы залезці па зборнай металічнай канструкцыі на самую верхавіну галоўнай навагодняй ёлкі ў Віцебску. Сяргей Каваленка абвінавачаны паводле ч. 1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і ч. 2 арт. 363 (супраціў работніку праваахоўных органаў пры выкананні ім службовых абавязкаў).

Праваабарончы цэнтр “Вясна” лічыў і лічыць, што публічная дэманстрацыя і вывешванне Каваленкам нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга ні ў якім выпадку не можа кваліфікавацца як хуліганскія дзеянні, паколькі яны не носяць характару асаблівага цынізму і яўнай непавагі да грамадства і не мелі гэтага на мэце.

Дзеянні Каваленкі з'яўляюцца грамадска-палітычнай акцыяй, здейсненай у дадзенай форме, і не былі скіраваны на прычыненне шкоды грамадскаму парадку ці праяву непавагі да грамадства.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” расцэньвае паўторнае прыцягненне Сяргея Каваленкі да крымінальнай адказнасці за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі як працяг палітычных рэпрэсій у дачыненні да яго і спробу далейшай ізаляцыі актывіста апазіцыйнай партыі.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць крымінальную справу і забяспечыць яму належную і неадкладную медыцынскую дапамогу.

Праваабрончы цэнтр “Вясна” нагадвае прадстаўнікам адміністрацы СІЗА, кіраўніцтву МУС Беларусі, што адказнасць за жыццё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам кладзецца на іх.

## АЎТУХОВІЧ І БЯЛЯЦКІ: разам мы зможам зрабіць нашу Беларусь свабоднай

*Кіраўнік ГА "Цэнтр па правах чалавека" Раіса Міхайлоўская паведаміла, што праваабаронцы атрымалі віншавальныя паштоўкі ад палітвязняў Мікалая Аўтуховіча і Алеся Бяляцкага.*

«У адказ на нашы віншаванні мы атрымалі паштоўкі ад Мікалая і Алеся, чаму былі вар'яцка рады. Самі паштоўкі вельмі прыгожыя і слова ў іх цёплыя і аптымістычныя. Адразу ва ўсіх нас паднялося настрой на святы», - распавядае Раіса Міхайлоўская. - Відаць, што, нягледзячы на праблемы, з якімі яны сутыкаюцца ў турмах, іх воля і дух не зламаны і спадзяюцца яны на хуткую з намі сустрэчу".

**"Дазволь павіншаваць цябе, тваіх родных і блізкіх, усіх, хто цябе атачае з святамі каляд Хрыстова і З Новым 2012 годам! Хачу пажадаць усім моцнага здароўя, шчасця, кахання! Поспехаў у Вашай нялёгкай працы! Разам мы зможам зрабіць нашу Беларусь вольнай! Хай усе пажаданні спраўдзяцца ці хаця б наблізіцца ў гэтым годзе. Трымайцеся! Вялікі дзякуй за падтрымку!"**, - піша Мікалай Аўтуховіч.

**"Віншую цябе і ўсіх калегаў з Новым гадам І Раством Хрыстовым! Жадаю неаб'ятнага шчасьця і спаўнення нашых агульны памкненьняў. У мяне ўсё пакуль дабра! Да сустрэчы!"**, - заканчвае сваё віншавальнае пасланне Алесь Бяляцкі.

"Беларускі партызан”

## У Камітэт ААН па правах чалавека накіравана першая скарга з Беларусі на прымусовую дактыласкапію

Чарговая скарга з Беларусі накіравана 10 студзеня ў Камітэт ААН па правах чалавека. Але ўпершыню беларус скардзіцца на прымусовую дактыласкапію.

Старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіль Палякоў палічыў, што, прымушаючы яго да здачы адбіткаў пальцаў, дзяржава парушае артыкулы 14 и 26 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Пачалося ўсё з таго, што суд Савецкага раёна Гомеля аштрафаваў Палякова за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню супрацоўніка міліцыі, які прымушаў прайсці дактыласкапію. У абласным і Вярхоўным судах скаргі гамельчука не задаволілі. Паколькі ўсе ўнутраныя сродкі абароны былі вычарпаны, палітык вырашыў звярнуцца ў міжнародную структуру.

Працяг на 4 стар.



# Генпракурора просяць «даць дзеянням грамадзяніна Лукашэнкі прававую ацэнку»

*10 студзеня лідэр гомельскай арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Уладзімір Сякерка звярнуўся з заявай да генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Канюка.*

У заяве ўтрымліваецца просьба «правесці праверку фактаў грубага парушэння беларускага заканадаўства» Аляксандрам Лукашэнкам, пра што, на думку Уладзіміра Сякеркі, сведчаць заявы кіраўніка дзяржавы 7 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску для расійскіх журналістаў, паведамляе БелаПАН.

Нагадаем, Лукашэнка заявіў: «Прэзідэнцкія выбары я праводзіў па паняццях Еўрапейскага саюза. Мы цалкам сышлі ад нашага заканадаўства».

Беларускі кіраўнік нагадаў, што напярэдадні выбараў Мінск наведвалі еўрапейскія чыноўнікі, якія вылучалі шэраг патрабаванняў па правядзенні выбарчай кампаніі.

«Галоўнае было патрабаванне усіх зарэгістраваць, а ў нас трэба 100 тысяч подпісаў сабраць для рэгістрацыі. Ну добра, прайшоў раунд збору подпісаў. Адзін у Віцебскім раёне ўзяў тэлефонны даведнік і ўсіх перапісаў. Ну як яго зарэгістраваць? Гэтага не рэгістравалі, астатніх зарэгістравалі 10 чалавек. Я ім аддаў 600 000 сваіх подпісаў. У мяне недзе было 2 мільёны 700 тысяч, я ім аддаў, каб ЦВК іх зарэгістраваў. Зарэгістравалі ўсіх, пад жалезным маім ціскам», падкрэсліў Лукашэнка.

У гэтай сувязі Сякерка просіць генпракурора «даць дзеянням грамадзяніна Лукашэнкі прававую ацэнку».

Ён таксама просіць праверыць дзейнасць Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале з Лідзіяй Ярмошынай на прадмет датычнасьці яе і іншых членаў ЦВК да парушэнняў Выбарчага кодэкса, адзначаных у выказваннях Лукашэнкі.

Лідэр абласной арганізацыі партыі звяртае ўвагу, што да гэтага часу ні ад аднаго прадстаўніка органаў дзяржаўнай улады, у тым ліку ЦВК, не было абвяржэння фактаў, агучаных на прэс-канферэнцыі.

> „На падставе якіх нормаў беларускага заканадаўства прэзідэнцкія выбары праводзіў асабіста Лукашэнка?"

«Такім чынам, усё, сказанае публічна Лукашэнкам аб найгрубейшых парушэннях беларускага заканадаўства падчас арганізацыі і правядзення прэзідэнцкіх выбараў, з'яўляецца праўдай», прыходзіць да высновы палітык. Ён цікавіцца ў генпракурора, на падставе якіх нормаў беларускага заканадаўства прэзідэнцкія выбары праводзіў асабіста Лукашэнка і чаму гэтыя выбары праводзіліся не па Выбарчым кодэксе, а па «паняццях Еўрапейскага саюза».

«Па якім праве пры правядзенні выбараў „мы цалкам сышлі ад нашага заканадаўства"? На падставе якіх нормаў Выбарчага кодэкса подпісы, сабраныя кандыдатам у прэзідэнты Лукашэнкам, былі перададзеныя іншым кандыдатам?» - такія пытанні ставіць Сякерка перад генпракурорам.

**naviny.by**

---

**<< Пачатак на 3 стар.** У сваім звароце Палякоў прыводзіць довады, чаму прымусовая дактыласкапія парушае ягоныя правы:

«Наяўнасць у нацыянальным заканадаўстве Беларусі названага прадпісання прывяло да прымянення да мяне дыскрымінацыі па прыкмеце майго полу і года нараджэння, забароненай па сэнсу артыкула 26 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правахУвёўшы ў нацыянальнае заканадаўства такі выбарчы падыход, Рэспубліка Беларусь парушыла прынцып роўнасці ўсіх грамадзян перад законам, паколькі падставай для дыскрымінацыі на заканадаўчым узроўні ўвяла такую персанальную характарыстыку як узрост і пол чалавека. У выніку да чалавека ставяцца не як да асобы, а як да прадстаўніка групы людзей (ваеннаабавязаныя грамадзяне). Калі мяне выклікалі ў міліцыю здаць адбіткі пальцаў, я адмовіўся, бо супрацоўнікі міліцыі не прывялі ні аднаго аргументу, акрамя як патрабаванні заканадаўства, які б абавязваў мяне прайсці працэдуру абавязковай дактыласкапічнай рэгістрацыі».

У скарзе дэмакратычны актывіст называе яшчэ адзін факт, які можна расцэньваць як парушэнне правоў чалавека:

«Суд адхіліў хадайніцтва на запрашэнне ў якасці законнага прадстаўніка праваабаронцы Леаніда Судаленкі. Прычым, суддзя спаслаўся на артыкул Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Лічу, што дадзены артыкул супярэчыць міжнароднаму заканадаўству, і прашу Камітэт ААН указаць на гэты факт беларускай дзяржаве».

---

## Апазіцыянеры просяць суд прызнаць неправамерным змяшчэнне іх у ізалятар

*Уладзімір Кацора і Уладзімір Няпомняшчых звярнуліся са скаргай у суд Цэнтральнага раёна на супрацоўнікаў аддзелу ўнутраных спраў, якія незаконна змясцілі іх у ІЧУ.*

*7 і 8 кастрычніка, напярэдадні і ў дзень правядзення Народнага сходу, Уладзімір Няпомняшчых і Уладзімір Кацора былі затрыманы супрацоўнікамі РАУС Цэнтральнага раёна па абвінавачванню ў здзяйсненні парушэння парадку правядзення масавага мерапрыемства. Пасля затрымання яны былі змешчаны ў ізалятар, дзе ўтрымліваліся прымусова да суду.*

*«Дзеянні міліцыянераў па нашаму затрыманню да суду на тэрмін больш трох гадзін мы палічылі неправамернымі, абмяжоўваючымі наша права на свабоду і недатыкальнасць, і звярнуліся са скаргамі ў пракуратуру. Адтуль быў атрыманы адказ, што наша затрыманне з'яўлялася мерай забеспячэння адміністрацыйнага працэсу, а наш статус вызначаўся як статус асоб, здзейсніўшых правапарушэнне», - адзначаюць у скарзе заяўнікі.*

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.